# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 44 (1694) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 30 КАСТРЫЧНІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.


## БЕЛАРУСЫ МАЮЦЬ НАТУРАЛЬНАЕ ПРАВА

Прафесар Уладзіслаў Сэрчык належыць да групы польскіх гісторыкаў, якія на свой даследчы і творчы варштат палажылі праблематыку нацыянальных меншасцей. Прафесар з'яўляецца выдатным знаўцам гісторыі Украіны. Ён надзвычай шырока спапулярызаваў сярод польскага грамадства ўкраінскую гісторыю, выдаўшы добрую дзюжыну кніжак на гэтую тэму, у тым ліку такую фундаментальную работу, як „Гісторыя Украіны“ („твор майго жыцця“, як гаворыць сам прафесар).

І вось ужо другі год прафесар Сэрчык на Беласточчыне (жыве ў лесінічоўцы пад Беластокам, а працуе ў Філіяле Варшаўскага універсітэта кіраўніком Кафедры гісторыі культуры Усходняй Еўропы Гістарычнага інстытута гэтага філіяла). Прыехаў на Беласточчыну з Кракава, з Кракаўскага універсітэта, званага Ягелонскім, у якім ад сярэдніх вякоў пачынаючы, вучылася многа выдатных беларусаў, для прыкладу, Францішак Скарына ці Мікола Гусоўскі.

Калі чуткі аб прыездзе прафесара дайшлі да розных беларускіх асяроддзяў, у многіх зрадзілася надзея, што вось даследаванне гісторыі беларускага народа рушыць новым шляхам, што беларуская меншасць у Польшчы авансуе ў краіне ў тым сэнсе, што прафесар прычыніцца да папулярызацыі нашай гісторыі і культуры і што яго праца ў асяроддзі будзе штуршком для гістарычных доследаў над беларускай гісторыяй для іншых. Як ведаем, беларуская гісторыя надта мала апрацаваная і даследаваная, а яна мае велізарнае значэнне для росту нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Усе гэтыя меркаванні і спадзяванні сталі штуршком для рэдакцыі „Нівы“ да пошукаў размовы з прафесарам, тым больш, што ён адразу разгарнуў на Беласточчыне шырокую і актыўную грамадскую дзейнасць, звязаную са спецыфікай нашай зямлі, улічваючай яе нацыянальную, моўную і рэлігійную разнароднасць.

Мы дамовіліся з прафесарам па тэлефоне і неадкладна сустрэліся ў рэдакцыі. Амаль тры



Прафесар Уладзіслаў Сэрчык

гадзіны мы гаварылі пра беларусаў у Польшчы, пра ролю прафесара ў гэтай праблеме, пра нашы спадзяванні ў адносінах да гісторыка. Дапытвалася я, наколькі могуць быць апраўданы надзеі беларусаў на нейкі „новы скок“ у беларускай дзейнасці ў Польшчы, у папулярызацыі ў польскім асяроддзі нашай гісторыі, так як гэта прафесар Сэрчык зрабіў з украінскай гісторыяй.

Дамовіліся мы, што пастараюся перадаць істоту гэтай размовы, маючы надзею на далейшыя сустрэчы беларускай газеты з прафесарам Сэрчыкам.

За няпоўныя два гады прафесар Сэрчык збольшага пазнаёміўся з нашымі нацыянальнымі рысамі і праблемамі. Сугучным для нашага беларускага сялянскага радаводу быў яго расказ аб сваім радаводзе, якім прафесар ганарыцца. Сам ён па абодвух дзядах выводзіцца з „падкракаўскай моцнай сялянскай сям'і“. Бацька гісторыка, дзякуючы толькі сваёй мужыцкай стойкасці, здабыў адукацыю, ходзячы пехатой кожны дзень па некалькі кіламетраў у школу ў Кракаў. Энергія, працавітасць, здольнасць і ўпор давялі яго да дырэктара „ізб рольнічых у Кракаве, Варшаве і Торуні“ — важнай сельскагаспадарчай установы ў даваенны час. Сялянскі этас цяжкай працы, сумленнасці і прывязанасці да зямлі роднай, якія прафесар атрымаў у спадчыне, памагаюць яму цаніць іншасць іншага чалавека і іншасць іншых народаў. Адвечная засядзеласць беларусаў на Беластоцкай зямлі, на думку прафесара, факт, які не падлягае аспрэчванню. І гэты гістарычны факт дае беларусам натуральнае права на гэтую сваю бацькаўшчыну, права, якога нельга ў іх адабраць. Прафесар лічыць, што ў гэтым натуральным праве нашым змяшчаецца і права беларусаў без страху звацца беларусамі, права мець сваіх паслоў у Сейме, права мець назвы вёсак на дзвюх мовах і іншыя правы, звязаныя з нашай нацыянальнай прыналежнасцю. „Mnie szlag trafia“, — так выразіўся прафесар аб тых, хто гаворыць, што беларусы павінны ісці ў Савецкі Саюз, калі яны беларусамі хочуць быць. І прадаўжае: „Гэты чалавек, які сядзіць на сваёй бацькаўшчыне ў Трасцянцы ці ў Кляшчэлях — ён мае большае права да гэтай зямлі, чым Сэрчык з Кракава. Гэтае ж самае датычыць, зрэшты, палякаў, якія жывуць у Савецкім Саюзе.“

На пытанне аб спецыфіцы рэгіёна і яго адчуванні, наш размоўца расказаў, як упершыню сустрэўся з Беласточчынай. Бы-

(Працяг на стар. 4)

## УЛАДЫ БГКТ ВЫБРАНЫЯ XI. З'ЕЗДАМ

### ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БГКТ

Аляксандр Баршчэўскі — старшыня

Мікалай Алексяюк
Тамара Бурачэўская
Мікалай Вушко
Фёдар Галёнка
Люба Гаўрылюк
Янка Добаш
Міхал Дулько
Аляксандр Іваноўскі
Аляксандр Іванюк
Анна Іванюк
Галена Ігнацюк
Мікола Ігнацюк
Юрка Каліна
Аляксей Карпюк
Сцяпан Копа
Валянціна Ляскевіч
Васіль Ляшчынскі
Віталій Луба
Сяргей Лукашук
Янка Максімюк
Данута Мароз
Анатоль Мартыновіч
Галіна Мартынюк
Антон Мірановіч
Валянціна Міцэвіч
Мікалай Нікалаюк
Мікалай Пракапюк
Янка Рашчэнка
Віктар Рудчык
Васіль Сакоўскі
Васіль Сегень
Галена Тапалянская
Сяргей Харкевіч
Ян Чыквін
Сакрат Яновіч

### ГАЛОЎНАЯ РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ БГКТ

Уладзімір Юзвюк — старшыня

Вера Баравік
Таіса Бахмат
Мікалай Еўдасюк
Павел Лемеш
Кастусь Масальскі
Лявон Харытанюк

### СЯБРОЎСКІ СУД БГКТ

Людміла Бушко
Пятро Германюк
Валянціна Ефімюк
Людміла Кісляк
Аляксандр Лаўрыновіч
Аляксандр Максімюк
Уладзімір Ярашук

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Удзельніца мастацкай самадзейнасці з Гародчыны Крыстына Антосюк.



Салістка калектыву „Зярняткі" з Пашкоўшчыны Еля Загон.
Фота Я. Чэрнякевіч.

Барыс Сачанка

## ЯБЛЫК

### Апавяданне партызана

Кожны раз, калі я прыязджаю на Палессе ў госці да дзядзькі Юстына, ён частуе мяне яблыкамі — ядранай сакаўной пуцінкай са свайго прысядзібнага саду. Частуе і прымаўляе, шчасліва ўсміхаючыся на ўсе густыя і на дзіва белыя зубы:

— Каштуй, каштуй, чаго яны варты? Гэта ж з тых тваіх яблынек... Памятаеш?

— Ну? — любуючыся чырванабокімі прадаўгаватымі пладамі, на якіх яшчэ дзе-нідзе рдзяцца, дрыжаць буйныя слёзы расы, кажу я, быццам вельмі ўражаны і здзіўлены. — Няўжо з тых?

— А ты думаў... З тых самых. Вось бяры каштуй, ды выйдзем паглядзіш, як разрасліся, раскашуюцца яны...

Я выбіраю самы вялікі і самы спелы яблык і, мацуючы пальцамі, доўга разглядаю яго, усё не асмельваючыся ніяк паднесці да рота. І ўспамінаецца мне...

... Сухая пагодлівая восень. Лянiва і неахвотна плыве, валтузіцца рэдкая пража павуціны. Густы жаўток сонца дасмажваецца над дымным полымем лесу — гарaць пакуль што — і то не вельмі смела — адны асінкі.

Стомленыя, галодныя, мы ледзь валочым ногі — вяртаемся з баявога задання. Я, камандзір падрыўной групы, і таварышы па зборі. Ісці далёка. Трэба мінуць папялішчы — некалі доўгую, усю ў зяляніне садоў вёску, няскошаныя, парыжэлыя паплавы, пагоркавы абсяг поля, добрых дзесяць кіламетраў лесу...

Шархаціць пад ботамі сыпкі пясок. Ідзём моўчкі, кожны думаючы сваё.

Навокал — сумныя рэшткі колішняга ўтульнага чалавечага жылля: чорныя, напалову заваленыя цэглай зеўры печаў, дрэвы з абсмаленымі камлямі і падсушанымі венчыкамі крон, вывернутыя абгарэлыя шулы, паламаныя плятні, парканы, платы... І чорныя галавешкі, сівы бруднаваты попел...

Вёска згарэла нядаўна. Яшчэ сям-там відны сляды жыцця. Вось трапіўся выводак амаль дарослых гусей. Пырхаюць чародкі канаплянікаў. У вушы чамусьці ўлезла і гучыць — ні на хвілю не змаўкае — даўняя дзіцячая песенька:

Верабей, верабей
Не клюй канапель...

Мясцовасць гэтая нічыя: бываюць тут і немцы, прыходзім і мы, партызаны. Уночы, а іншы раз і ўдзень, у вёску наведваюцца людзі, якім удалося неяк пазбегнуць фашысцкай расправы. Яны капаюць бульбу, абіраюць спелыя памідоры і фасолю, перацягваюць у лес са склепаў ацалелы хатні пажытак...

Прывал робім у канцы. Надта ж ужо заманлівая тут засень пад купкаю груш і яблынь. І студня, каб вады напіцца, побач. Дый на выпадак чаго — блізка кусты, лес. Хлопцы адзін за адным валяцца на зямлю. А я, напіўшыся халоднай — аж зайшліся зубы — вады, крочу да разгалістай яблынькі, якая адбегла ад гурту крыху ўбок. Агонь пакараў яе за гэта — увесь верх высушыў языкамі полымя.

За здратаваным курамі загонам ячменю, ля кучы палак, бачу хлапчука. Ён ляжыць ніцма. Малы зусім, мо год шэсць.

З парваных калашын даматканых портак відаць худыя парэпаныя ногі. Непадалёку — вялікая, мусіць, бацькава, шапка-кучомка.

Толькі нагнуўшыся, я здагадваюся, што малы мёртвы... Азіраюся і бачу на яблыні між двух тоўстых сукоў вялікі прадаўгаваты яблык. Уяўленне маё дамалёўвае ўсё астатняе. Хлапчук, пэўна, адзін з тых, каму

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Станіслаў Шушкевіч

### НЯЎДЗЯЧНЫ КОТ І ВОЖЫК-ДАБРАДЗЕЙ

Мышы ў доме пад падлогай,
Як у крэпасці, жылі,
Не баяліся нікога,
Плёткі пра катоў вялі.

А кату няма спакою,
Ні на хвілю не засне,
Ходзіць ноччу па пакоі,
Днём яды ён не кране.

Што рабіць? Ну хто парадзіць?
Выйшаў ён аднойчы з дому
І паплёўся ціха ў садзік,
Лёг пад дрэвам на салому.

Ды і тут яму не спіцца,
Чуе шэлест між галін.
Жартаўлівая сініца
Заліваецца ад кпін.

Даўгахвостая сарока
Стракатала сотню раз:
— Я ж такога лежабока
Сёння бачу першы раз.

Лезе вожык з-за кустоў,
Ледзь з лаўжоў
прабрацца здужаў,
Шэпча: — Я табе гатоў
Памагчы, каток, мой дружа!

Добра я разведаў ход
У іх норы, пад падмуркі,
Разганю мышыны зброд,
Пагуляю з імі ў жмуркі!..

Кот нібы памаладзеў,
Аж ад радасці падскочыў.
Дзе той смутак? Гора дзе?
Як іскрынкі,ззяюць вочы.

Друга ён хацеў абняць,
Ды ў іголках добры вожык...
Жыхароў з таго вось дня
Мышы болей не трывожаць.

А ў мышэй перапалох,
З-пад падлогі далі драла.
Вожык коціку памог, —
Ціха, ціха ў доме стала.

Хваляць спрытнага ката
Ад малога да старога.
Ды ніхто не павітаў
Тут калючыка малога.

На канапе спіць каток,
Вожык шыецца ў салому,
Даў бы коцік хоць глыток
Малачка дружку малому.

Кот ад гонару мурчыць,
Лічыць сам сябе вялікім,
Мае добрыя харчы
І выгод яшчэ без ліку.

Славай цешыўся чужой
Кот, няўдзячны задавака,
А было ж, на ўвесь пакой
Ад мышэй ён горка плакаў.



А. Татарынаў




Як толькі пачаўся ўрок фізкультуры, настаўнік зрабіў пераклічку, а потым сказаў:

— Будзем скакаць у даўжыню з разбегу.

Цудоўна! Вось цяпер я пакажу задаваку Макару, як перамагаюць. Не дарма ж мы з татам кожную раніцу робім гімнастыку і паліваемся халоднай вадой. А цяпер, пакуль ёсць час, трэба расслабіцца...

— Калядэнка, табе спецыяльнае запрашэнне трэба? — раптам дайшоў да мяне голас настаўніка.

Усе засмяяліся, я рвануў з месца, разагнаўся і скочыў.

— Два метры восемдзясят пяць сантыметраў. Малайчына! — сказаў настаўнік. — Наўрад ці Макар скочыць больш.

Але настаўнік, на жаль, памыліўся. Макар скочыў на пяць сантаметраў далей.

„І як гэта ў яго выходзіць? — раздумваў я дома. — Можа, ён інакш трэніруецца?“

Вярнуўся з працы тата. Ён ведаў аб маім спаборніцтве з Макарам і таму адразу ўсё зразумеў.

— Прайграў?

Я кіўнуў.

— Толькі не раскісай, добра? — падтрымаў тата.

А раніцай я, не шкадуючы сілы, скакаў, бегаў па сцежках парка.

... Чарговага ўрока фізкультуры я не мог дачакацца. Маё ўяўленне паддавала мне адну карціну за другой перамогі над Макарам. А калі пачаўся ўрок, не вытрымаў, падышоў да Макара і пры ўсіх сказаў:

— Сёння я буду першы.

Я думаў, што Макар разгубіцца, але ён толькі загадкава ўсміхнуўся:

— Усё можа быць.

На гэты раз мы бегалі. І зноў Макар апярэдзіў мяне! На нейкую дробязь, на дзве секунды, але ўсё-такі апярэдзіў!

Мабыць, я выглядаў вельмі ж прыбітым, таму што Света шарпнула мяне за рукаў і прашаптала:

— Сярожка, не звязвайся з Макарам. У яго ёсць сакрэт! Ён гаварыў аб гэтым Колі.

Я аслупянеў: дык вось яно што!

— Што за сакрэт? — пытаюся.

— А хто яго ведае, — паціснула плячыма Света.

Дома я расказаў тату аб чарговым паражэнні і аб тым, што я пачуў ад Светы.

— І ты верыш, што ў Макара ёсць сакрэт? — спытаў тата.

— А чаму ён заўсёды першы?

— Можа, ён ад прыроды дужэйшы за цябе?

— Але ж Макар маленькі і шчуплы, — засмяяўся я. — Не, у яго павінен быць сакрэт. Але як яго пазнаць?

Хутка такі выпадак прадставіўся. Аднойчы, калі я бегаў па парку, мяне нехта паклікаў. Я агледзеўся і бачу... Каго б вы думалі? Макара!

— Што ты тут робіш? — спытаў я разгублена.

— Трэніруюся. А ты?

— Я таксама трэніруюся.

Вось ён, адпаведны момант, падумаў я, каб даведацца, пазнаць таямніцу Макара. І запрапанаваў:

— А можа мы будзем разам трэніравацца? Удваіх будзе весялей.

Макар і не здагадваўся аб маім сапраўдным намеры, нават уцешыўся:

— А што, гэта ідэя!

Прайшоў месяц. Але я так і не разгадаў таямніцу Макара. На ўроках фізкультуры Макар па-ранейшаму спераду. Што ж гэта такое? Проста Свеціны выдумкі? Доўга я не мог адважыцца, але аднойчы рашыўся:

— Скажы, Макар, як табе ўдаецца заўсёды перамагчы на ўроках фізкультуры?

— Не ведаю.

— Але ж ты гаварыў Колю аб нейкім сакрэце?

Макар засмяяўся:

— Гэта быў жарт. Разумееш, да нас падышла Света. Ну, я і ляпнуў пра сакрэт, каб цябе заінтрыгаваць. Ведаў, што да цябе абавязкова дойдзе.

— А я столькі часу ламаў сабе гэтым галаву! — усклікнуў я і па-сяброўску ўсміхнуўся Макару.

Аднак не думайце, што мне не хочацца перамагчы Макара. Хочацца, яшчэ як! Толькі гэта ўжо мой сакрэт.

## Вясёлы куточак

* * *

— Я пайду кветкі ў гародчыку палью, — кажа Янка.

— Дык жа дождж ідзе? — пярэчыць мама.

— Нічога. Я плашч надзену, — супакойвае Янка.

* * *

Госць аглядае падворак і пытаецца ў гаспадара:

— А што вы з гусямі робіце?

— Гэта суседавы. Занясу іх на панадворак суседа і там некалькі разоў пакручу. Каб ім так у галаве закруцілася, каб яны больш сюды дарогі не знайшлі.

* * *

— Чаму ты так спяшаешся, малюючы?

— Хачу паспець дамаляваць, пакуль фарба не скончыцца.

* * *

— Ідзі і павучыся граць на піяніне, — кажа маці. — Толькі раней рукі памый!

— Навошта! Я ж яшчэ толькі на чорных клавішах граю!

* * *

Коля прыйшоў да сваёй бабулі і кажа:

— Ты заўсёды гаворыш, што добры чалавек заўсёды дабром адплочвае за добры ўчынак.

— Толькі так, мой хлопчык.

— Дык дай мне грошай на цукеркі. Я твае акуляры знайшоў.

# ЯБЛЫК

(Працяг са стар. 9)

ўдалося вырвацца ад смерці ў той дзень, калі карнікі палілі вёску. Жыў — перабіваўся чым папала, пакуль аднойчы не прыблыкаў у вёску і не адшукаў несарваны яблык. Назбіраў бярэмя палак і, шчаслівы, бесклапотны, бег да яблыні, каб збіць... Мабыць, і збіў бы, каб не праязджалі якраз у той час па вёсцы фашысты... Колькі трэба дзіцяці, каб больш ніколі не асвятліла ўсмешка яго твар?.. Адна невялічкая куля...

Яблык той тыдні два насіў я ў кішэні. Усё не ведаў, што з ім рабіць. Калі ж нарэшце разрэзаў — на далонь выпала некалькі шакаладных зярнятак. Іх, ускалупнуўшы зямлю наском бота, я ўкінуў — проста так, без якой-небудзь мэты — на ўзлеску.

Праз пару год, праходзячы тымі мясцінамі, я ўспомніў няшчаснага хлапчука, яблык і дзень, калі, стомленыя, брылі мы з баявога задання. Зноў чамусьці загучала ў вушах:

Верабей, верабей,
Не клюй канапель,
А клюй проса,
Ды не вылам носа...

Я не ўтрымаўся, каб не зазірнуць на ўзлесак. І — цуд! — восем танклявых дубчыкаўяблынек цягнуліся ўгору.

... Усяго гэтага дзядзька Юстын не ведае. Ён з сакавітым трэскам кусае вялікі, спелы яблык і, водзячы мяне па садзе, усё ўспамінае-расказвае пра радасны дзень прыходу нашых, калі я паказаў яму, тутэйшаму чалавеку, тыя яблынькі.

— Але, гэта ж ты гады сказаў: „Вось, дзядзька, табе падарунак, памяць пра нас, партызан. Перасадзі ў сад, хай растуць. Можа, прыеду калі — пачастуеш“, — басіць дзядзька Юстын.

Я слухаю яго, а ў вачах зноў і зноў паўстае спаленая вёска, яблык у пажоўклай лістоце, незнаёмы маладетак-хлапчук, прышыты фашысцкай куляй да зямлі...

## Пазнаёмімся

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 40. Оля Шынкевіч. 7 клас.

* * *

СССР, 340036, г. Донецк, ул Делегатская, 7, кв. 58. Коваленко Свете. 8 клас.

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, вул. Камсамольская, 5, кв. 6. Чарняўскай Аксане. 5 кл.

* * *

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Герасіменкі, 18, кв. 84. Каленік Аксане. 4 клас.

* * *

БССР, 220131, г. Мінск-131 абанентная скрынка № 17. Оля Сапрановіч і Оля Языковіч, пяцікласніцы.



Ілюстрацыя Анэты Юзвовіч да казкі Сяргея Грахоўскага „Лебядзінае пяро“.



## Пішуць школьнікі

ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА“!

*Піша Табе вучаніца сёмага класа з Чаромхі Анэта Юзвовіч.*

*Дарагая „Зорка“! Мы ўжо не вучымся беларускай мовы, але я ніколі не забуду яе. Я вельмі хацела б далей вывучаць беларускую мову і ў восьмым класе. Не забывай Ты, „Зорачка“, мяне. Я буду пісаць Табе.*

*Пасылаю Табе апавяданне, як я правяла канікулы.*

*Летам я была дома. Мне было вельмі весела. Калі былі сенакосы, я ездзіла на сенажаць і памагала бацькам. Калі мне даводзілася заставацца дома, я чытала кніжкі, хадзіла да сяброўкі і мы разам праводзілі вольны час.*

*Ранічкай мы з мамай хадзілі па грыбы і ягады. Мне так хочацца, каб і цяпер былі канікулы.*

*Анэта Юзвовіч, 7 клас, школа ў Чаромсе.*

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



На картоніках намалюйце чатыры косткі даміно з такой колькасцю кропак, як на малюнку. Цяпер выражце іх. Трэба так спалучыць косткі, каб сума кропак па баках квадрата склала 12.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка“

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ЗАВУШНІЦЫ

*Словы М. Танка* *Музыка У. Мулявіна*

*О, колькі раз прасіў я*
*Назначыць мне спатканне;*
*О, колькі раз хацеў я*
*Прызнацца ёй у каханні!*

*Ды ўсё перашкаджалі,*
*Калі дзяўчыне верыць,*
*То пёвадак вясновы,*
*То прымарагак-шрань.*

*Але і я — упарты.*
*І каб сваёо дабіцца,*
*Прасіў я ічыра майстра*
*Зрабіць ёй завушніцы.*

*На гэтых завушніцах*
*Я напісаў заклянне —*
*Усё, што не сказаў ёй,*
*А ў чым хацеў прызнацца.*

*Сягоння не дзіўна ўжо*
*Ад слоў маіх гарачых*
*Ні ў час, калі смяецца,*
*Спявае або плача.*

*Ні ў час, калі прыляжа,*
*Змарыўшыся, змярканнем, —*
*Звіняць ёй завушніцы*
*Усё пра маё каханне.*



# НІЎКА



— З таго часу, як завёў я гэтага сабаку, мы з жонкай ні разу не пасварыліся. Рэкс не зносіць крыку ў хаце.

### ДЫК ВЫП'ЕМ

— Можа яшчэ паўторым па каньячку?

— Разважнасць мне падказвае: нельга. Вядома, што разважнасць разумнейшая ад страўніка.

— А разумны ніколі не спрачаецца з дурнем. Дык вып'ем.

### АГІДНЫ ВЫЕЗД

— Як прайшоў ваш выезд за горад?

— Агідна. Калі выйшлі са станцыі, ніяк не маглі знайсці кафэ, а калі выйшлі з кафэ, не маглі знайсці станцыі.

### НЕ МАГУ ЦЯРПЕЦЬ

— Цярпець не магу дзвюх рэчаў, — гаворыць сусед.

— Якіх жа? — цікавіцца размоўца.

— Беспарадку ў хаце і ліквідавання яго.

### ПАШЛАВАЛІ

— Вінцую, дружа! Усё-такі ты памірыўся з жонкай! Учора бачыў, як вы разам пілавалі дровы.

— Ды не, гэта былі не дровы, а мэбля.



Яна прывыкла да гатовых меркаванняў, як да кулінарных паўфабрыкатаў, якія аблягчалі ёй падрыхтоўваць духоўную страву.

# Тэлефонная размова

— Алё! Зоя? Прывет. Бачыла я ўчора вас у парку з Валодзем. Табе падыходзіць быць бландзінкай.

— Што, ты брунетка? Дзіўна.

— Аправа ў тваіх акулярах прыгожая.

— Што, не носіш? Хм, хм...

— Патаўсцела ты.

— Што, пахудзела?

— А мне паказалася ты таўстушкай. Такой пікантнай.

— Слухай, а чаго вы гэта ў парку абнімаецеся? Быццам больш няма дзе?

— Не была ты ў парку? Што ты кажаш?

— Дык не перажывай, можа гэта быў не твой Валодзя. Ну, не раві, тавораць табе, я цяпер пазнаю. Галі, даведаюся, можа гэта не Толік. Знаёмы твар, а чый муж, ніяк не ўспомню. Бывай!

**Маргарыта Краўчук**




# ПАТРЭБНЫЯ СПЕЦЫЯЛІСТЫ

Начальнік аддзела дастаў з шуфлядкі паперку, падаў яе свайму намесніку:

— Аж траіх трэба скараціць. А скарачаць няма каго, хоць і багата людзей у аддзеле...

— Ды багата ж, — уздыхнуў намеснік. — А калі разабрацца, паспраўднаму працуюць толькі трое: Іваноў, Пятроў, Сідараў.

— Працавітыя хлопцы, — пагадзіўся начальнік, — іх адных хапіла б на аддзел!

— Я ж таксама пра гэта, — сказаў намеснік. — Вазьміце Кірэйчыка. Штаны толькі праседжвае. Можа, з яго пачнём?

— Што вы! — войкнуў начальнік. — Без яго ж мы ў камандзіроўку не выберамся. Хто білеты на чыгунку даставаць будзе?! А ў Кірэйчыка маці касірам працуе. Не, браток, ён патрэбны нам спецыяліст!

— Тады скароцім Аляўціну Петрык, — разгубіўся намеснік. — Увесь дзень гартае часопісы...

— Эх, бачу я, не ведаеце вы яшчэ нашы кадры. Ды нічога, з часам будзеце ведаць, — хмыкнуў начальнік. — Аляўціна Петрык — наш Аэрафлот. Нездарма кажуць: беражыце час, карыстайцеся паслугамі Аэрафлоту. Мы і карыстаемся: у Петрык там родная сястра ў Аэрафлоце. Праблема з білетамі на самалёт, нават у курортны сезон, для нас не існуе!

— Вядома, — пагадзіўся намеснік і нерашуча дадаў: — Ёсць яшчэ адна кандыдатура. У тэхніцы — поўны нуль. Яўген Цяпун.

— І па твары начальніка здагадаўся, што зноў трапіў не ў таго. — Аўтобусныя касы?...

— Ды не, — закруціў галавою начальнік. — Бяры вышэй. За яго ва ўсіх аддзелах гарой. Баюся, каб не пераманілі. Аўтасервіс! Бацька яго там кіруе. Вось так! А ты Цяпуна скарачаць. Не, не тая кандыдатура, не тая! — Намеснік ескрушліва прашаптаў: — Застаюцца Іваноў, Пятроў, Сідараў...

Іх і скарацілі.

**Марат Баскін**



— Ці ты, каханая, упэўнена, што ўжо неўзабаве будзе нас трое?

— Зразумела, бо заўтра прыедзе мая мама.

Самазадаволены чалавек падобны на крапіву — сабою ён любуецца, а людзі яго абыходзяць.

*

Не гавары „гоп", калі пераскочыш у начальнікі. Могуць пачуць і пацікавіцца, хто ты такі.

*

Настаўніца пытаецца:

— Дзеці, каго мы называем царом звяроў?

— Дырэктара заапарка, — адказвае маленькі Пятрусь.




Дзеці добрых бацькоў бываюць пераважна дрэннымі, дзеці дрэнных — добрымі. Ці не зрабілі вы ненарокам крыўду сваім дзецям, жадаючы ўвесь час быць добрымі бацькамі?